# Газета для вас

16 — 22 лютага 2001 г.

№ 7 (270)

Грамадска-палітычны штотыднёвік, выдаецца са студзеня 1997 года

Падпісныя індэксы: 63834 (індывідуальная) 64145 (ведамасная)

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН




# СТАТЫСТЫКА ВЕДАЕ ЎСЁ,
## або Куды коціцца сельская гаспадарка?

Падведзены вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця Драгічынскага раёна за мінулы год. Аб чым яны сведчаць?

Летась не на поўную магутнасць працавалі прамысловыя прадпрыемствы. Яны знізілі аб'ёмы вытворчасці прадукцыі на 5,7 працэнта ў параўнанні з 1999 годам. Асабліва "падкачалі" сыраробны і камбікормавы заводы, мясцовая станцыя тэхабслугоўвання аўтамабіляў.

З 50 найважнейшых відаў прадукцыі, якія павінны былі выраблядца ў раёне, выпускалася толькі 28.

А што ж у сельскай гаспадарцы? Тут, як кажуць, куды ні кінь — усюды клін. Дастаткова адзначыць, што летась у раёне па-ранейшаму адбываўся спад аб'ёмаў прадукцыі жывёлагадоўлі. Так, у параўнанні з 1999 годам вытворчасць малака знізілася на 8,6 працэнта, мяса — на 16 працэнтаў. Як вынік, гадавыя планы продажу гэтых прадуктаў дзяржаве былі выкананы адпаведна на 91 і 89 працэнтаў. А гэта значыць, што многія нашы грамадзяне не ўбачылі на сваім абедзенным стале названых прадуктаў харчавання.

Дарэчы, мясцовыя ўлады вельмі часта збіраюць кіраўнікоў сельгаспрадпрыемстваў на розныя нарады, запалохваюць іх, а да некаторых прымаюць "жорсткія меры ўздзеяння". Аднак, як кажа народная мудрасць, воз і сёння там.

Скажыце, людзі добрыя, як можна, напрыклад, эфектыўна весці сельгасвытворчасць у нашых умовах, калі літр бензіну каштуе 450–500 і больш рублёў, а літр малака — 80–90 рублёў? Аднак на гэтае , як і на іншыя пытанні сельгасвытворцаў, ніхто не звяртае ніякай увагі, не гаворачы ўжо аб нейкім рэагаванні.

На маю думку, галоўнае сёння для ўладаў усіх узроўняў — найбольш выцягнуць з гаротнага селяніна. На жаль, гэта мы праходзілі, успомніце, паважаныя чытачы, як нашы дзяды і бацькі працавалі ў калгасах-саўгасах за пустыя палачкі-працадні, нічога не атрымліваючы за сваю знясіленую працу. Гэта, як ні балюча, паўтараецца і сёння. Нават некаторыя спецыялісты ў гаспадарках атрымліваюць за сваю працу не больш 10—20 тысяч рублёў. Так, работу тэхнікаў-асеменатараў у калгасе "Сцяг Леніна" ацанілі ў восем тысяч рублёў у месяц. Само па сабе напрошваецца пытанне: хто пры такой аплаце будзе дбаць пра дальнейшае развіццё сельгасвытворчасці?

(Заканчэнне на 3-й стар.).



Хутка вясна... Зноў барацьба за ўраджай?

Фота А. МАКЛЯЦОВА.

# ВЫМІРАЕМ
## Вам не страшна?

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Гэта не жарт, а суровая рэальнасць. Нас, беларусаў, з кожным годам становіцца ўсё менш. Патрэбны лічбы? Калі ласка. Летась, напрыклад, у раёне нарадзілася 622 дзіцяці, а памёрла 1024 чалавекі. Колькасць жыхароў зменшылася на 402 чалавекі. Можна сказаць, што знікла такая вёска як Амяльная.

За пяць апошніх гадоў насельніцтва раёна зменшылася на 1615 чалавек. Уявіце сабе, што не стала ў раёне такой вялікай вёскі як Яглевічы.

Па вобласці гэтая лічба павялічваецца амаль у дзесяць разоў.

**Алесь САШЫН.**

# "Нашчадкі" і спадчына

**ДРАГІЧЫН.** "Нашчадкі" — гэта гуртки, які працуе ў гімназіі. Кіруе ім выкладчыца роднай мовы і літаратуры Т. А. Пратасевіч. Гуртkoўцы не толькі вывучаюць сваю нацыянальную спадчыну, але і праводзяць масавыя мерапрыемствы, тым самым даносяць да ўсіх гімназістаў нашу гісторыю, традыцыі і звычкі свайго народа.

Запомніліся вечар, прысвечаны Хлебу, гульня "Поле цудаў" з выкарыстаннем нацыянальнай тэматыкі. Самі словы (радаўніца, куцця, заручыны, валачобнікі і іншыя) вярталі ўсіх прысутных да народных звычаяў і святаў.

Плённай вам працы, "Нашчадкі"!

**Наталля АЛЕКСІЕВІЧ.**

# Проблемы беженцев

**БАРАНОВИЧИ.** 6 февраля в краеведческом музее города открылась выставка, посвященная 50-летию Управления Верховного комиссара ООН по делам беженцев. Выставка знакомит с документами, которые регламентируют деятельность Управления. Фотоматериалы знакомят с конкретными делами ООН по работе с беженцами.

Беженцев в Беларуси немного — 450 человек. В основном это переселенцы из Афганистана, стран Африки и Ближнего Востока. Столь малая цифра обусловлена, видимо, нестабильным экономическим положением нашей республики.

**Галина САСИМ.**

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Винникову не выдадут

**Великобритания не выдаст Беларуси бывшего председателя правления Национального банка Тамару Винникову, которая проживает там примерно с середины 1999 года.**

Об этом БелаПАН сообщили в посольстве Великобритании в Минске. Причиной отказа Министерства внутренних дел этой страны, куда белорусские правоохранительные органы обращались с просьбой о выдаче Т.Винниковой, послужило отсутствие между двумя государствами соглашения о взаимной выдаче лиц, подозреваемых в совершении преступлений. Соответствующее решение было принято британской стороной во второй половине января.

## Делегация ВС утверждена

**Как стало известно БелаПАН, Верховный Совет (ВС) Беларуси 13-го созыва определил состав делегации, которая отправится на заседание Постоянного комитета Парламентской Ассамблеи (ПА) ОБСЕ.**

Заседание должно пройти 22-24 февраля в Вене. По решению президиума Верховного Совета представлять белорусскую оппозицию в столице Австрии будут вице-спикер ВС Анатолий Лебедько и депутат Виктор Хомич.

На заседании Постоянного комитета будет обсуждаться вопрос о том, какой из двух законодательных органов Беларуси — Верховный Совет или Национальное собрание — должен быть представлен в Парламентской ассамблее ОБСЕ. На сегодняшний день ПА ОБСЕ в качестве единственного легитимного белорусского парламента признает Верховный Совет 13-го созыва.

## М. Чигирь протестует

**"Политической провокацией" назвали задержание их сына Александра Михаил и Юлия Чигирь на пресс-конференции 12 февраля в Минске. По словам бывшего премьера, подобными методами власти пытаются дискредитировать его как возможного участника кампании по выборам президента.**

Чигирь также связывает такое развитие событий с тем, что его уголовное дело фактически развалилось. "В последнее время меня даже перестали приглашать следователи, потому что им нечего мне предъявить", — сказал Чигирь. Потому власти принялись за детей. Старший сын Чигиря Алексей осенью 2000 года попросил политического убежища в Германии, после того как однажды обнаружил в багажнике своего автомобиля пачку патронов, подброшенных неизвестными.

## МИД поддержал ТБМ

**Министерство иностранных дел поддержало предложение общественного объединения "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" об использовании белорусского языка в оформлении товаров, импортируемых в страну.**

В беседе с корреспондентом БелаПАН управляющий делами ТБМ Сержук Крючков сообщил, что 12 февраля руководство объединения получило из МИДа ответ на свое письмо, в котором предлагалось рассмотреть проблему использования государственного белорусского языка на упаковках товаров, импортируемых в Беларусь. В ответе МИДа говорится, что для распространения белорусского языка министерство "считает необходимым внесение изменений в нормативно-правовые акты" страны.

## "Кунсткамера" в Бресте

**12 февраля в выставочном зале брестского комбината "Мастацтва" открылась выставка "Кунсткамера" Санкт-Петербургского музея восковых фигур.**

БелаПАН сообщал о том, что в январе этот музей представлял областному центру выставку "Палачи и жертвы", которая по распоряжению местных властей была закрыта. Выдворенная из Бреста экспозиция не смогла попасть, как планировалось, в другие города республики. В Гродно, куда петербуржцы намеревались отправиться из негостеприимного Бреста, им отказали в предоставлении выставочного зала и дали понять, что выставка в городе работать не будет.

Учитывая коммерческий успех выставки "Палачи и жертвы", Санкт-Петербургский музей принял решение привезти в город над Бугом другую экспозицию.

**(БелаПАН).**

# ВЫБОРЫ: НОВЫЙ ЭТАП,

## а кандидаты всё те же

**5 февраля окружные избирательные комиссии г. Барановичи закончили прием документов о выдвижении кандидатов в депутаты. В нашем городе осенью по обоим округам выборы не состоялись. И сейчас претенденты на место в Палате представителей снова надеются.**

Почему снова? Да потому, что кандидаты в основной своей массе те же. По Западному избирательному округу баллотируются: председатель свободного профсоюза предпринимателей С. Андрущенко, главный врач детской больницы В. М. Зеневич, директор ПКФ "Аист" В. Б. Голынкин, заместитель председателя совета республиканского общественного объединения "Молодежная демократическая инициатива" С. Мудров, инженер завода автоматических линий В. Тяпин и юрист международной общественной организации по содействию электронной торговле Е. Горбунова.

По Восточному избирательному округу кандидатов тоже немало: председатель благотворительной организации в помощь детям В. Давыдович, председатель ассоциации ветеранов войны в Афганистане Н. Асташко, заместитель директора Дома культуры Н. Богданов, начальник штаба гражданской обороны города Г. Сергиенко, директор киновидеопредприятия С. Колягина, врач станции скорой помощи А. Галькевич.

Будем надеяться, что вышеназванные кандидаты в депутаты отнеслись к своему выдвижению не только ответственно, но и с соблюдением закона и благополучно пройдут регистрацию

**Галина САСИМ.**
**г. Барановичи.**

## У "Палессе" трапіць цяжка

**ЦЕЛЯХАНЫ.** Па словах галоўнага ўрача санаторыя "Палессе" Станіслава Амяльянчыка, пуцёўкі на гэты год прададзены. Гэта значыць, што не ўсе жадаючыя могуць трапіць сюды, каб палячыцца і адпачыць.

Чым жа прыцягвае нашых жыхароў гэты санаторый?

Па-першае, пуцёўкі для адпачываючых каштуюць намнога менш, чым у іншых санаторыях.

Па-другое, тут працуюць сапраўдныя прафесіяналы, пачынаючы з галоўнага ўрача і канчаючы работнікамі харчблоку.

Па-трэцяе, у санаторыі паявілася новае сучаснае абсталяванне — лазер-тэрапія, вакуумны масаж, лячэбна-фізкультурны кабінет з новымі трэнажорамі "Кетлер". Абсталяваны таксама кабінет спелеатэрапіі.

Нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, калектыў санаторыя працуе і заваёўвае вялікую ўдзячнасць усё новых і новых сваіх пацыентаў.

**Алесь СЯЛЮК.**

## Крадуць нават крываяную каўбасу

**БЯРОЗА.** Нядаўна днём была абкрадзена адна з кватэр у доме 11 "А", што па вул. Леніна. Выбіўшы асяродак замка, злодзей (ці злодзеі) забраўся ў кватэру. У пошуках грошай развярнуў ложак, бялізну. Не знайшоўшы грошай, скраў залатыя вырабы, а з халадзіль-ніка— бутэльку гарэлкі і нават крывяную каўбасу.

У вас, шаноўныя чытачы, пакуль яшчэ ёсць час, каб паклапаціцца аб бяспецы сваёй кватэры. Вучыцеся на чужых памылках.

**Сяржук РУСЕЦКІ.**

## Пил дядя с мальчиком...

**БАРАНОВИЧИ.** А потом этот мальчик его избил, да так, что у мужчины закрытая черепно-мозговая травма. Не погнушался юнец снять со своего собутыльника куртку и шапку, а его самого бросить в подъезде дома, откуда скорая и доставила несчастного в больницу.

**Алина КОЛОСОВСКАЯ.**

## Хварэюць, у асноўным, дзеці

**ПРУЖАНЫ. 15 школ Пружаншчыны (у тым ліку ўсе гарадскія) закрыты на каранцін. Прычына — татальнае наступленне грыпу.**

Цікава, што грып сённяшняга года больш за ўсё ўплывае на здароўе дзяцей. Дарослыя, па словах Эдуарда Лагуна, галоўнага санітарнага ўрача Пружанскага РЦГіЭ, хварэюць не так многа.

Эдуард Люцыянавіч звярнуў увагу на тое, што ёсць школы (да прыкладу, Мокраўская СШ), дзе захварэла каля 50 працэнтаў вучняў, хоць у папярэднія дні захварэўшых былі адзінкі.

**Крысціна КРУГЛЕВІЧ.**

## Ёсць станоўчыя вынікі

**БЯРОЗА.** Раённы выканаўчы камітэт разгледзеў вынікі эканамічнага і сацыяльнага развіцця прадпрыемстваў прамысловасці, будаўніцтва, транспарту, сувязі, бытавога і камунальнага абслугоўвання раёна, калгасаў і саўгасаў.

Як і раней, сярод лепшых вызначаны Бярозаўскі сыраробны камбінат, аддзелачнікі СПМК-22, калгас "Боркі", раённы вузел паштовай сувязі.

Каля 30 перадавікоў занесены на раённую Дошку гонару.

***Валянціна АМЕЛЬЧАНКА.***

## Мясцовая "практыка"

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Чытаем вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна за мінулы год:

**"Из 21 вида заготовок планы выполнены по 7. Не выполнены планы по закупкам картофеля, овощей, дикорастущих плодов и ягод, кожи крупной и мелкой, лому цветных металлов, мёду, мясопродуктам и т. д.".**

Прыходзіцца здзіўляцца, што не выкананы планы нарыхтоўкі перш за усё бульбы і гароднiны, бо ў большасці ўласнікаў бульба і гароднiна ўрадзіла. Усю восень яны клапаціліся аб тым, як прадаць лішкі сваёй сельгаспрадукцыі. Звярталіся ў нарыхтоўчую кантору, скардзіліся ў рэдакцыі газет.

Сур'ёзных прычын для невыканання планаў не існавала. Успомніце: спярша бульбу на месцах не закуплялі, а калі сталі гэта рабіць, то аб'явілі зусім нізкую цану. Нявыгадна аддаваць задарма. І ўрэшце-рэшт нашы жыхары вымушаны былі прадаваць тую ж бульбу замежным гандлярам або абменьвалі ў іх жа на цукар, муку, алей, крупы, на іншыя харчовыя тавары.

А можа падобная мясцовая "практыка" нарыхтоўкі сельгаспрадукцыі камусьці выгадная?

**Сяргей СЛАВІНСКІ.**

# РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 14.02.2001 г. (у руб. за адзін кілаграм):**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын |
|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2500 | 2500—4000 | 2500—3600 | 2500—3300 | 2400—2800 |
| Сала салёнае | 1900—2500 | 1800—2800 | 2500 | 2600 | 2400—3000 |
| Алей (1 л) | 750—1000 | 700—1100 | 750—950 | 800—1100 | 800—1200 |
| Яйкі | 900—1000 | 800—1000 | 1000 | 1000 | 900—1100 |
| Малако (3 л) | 600 | 600 | 600 | 600 | 600—670 |
| Шпроты | 450 | 400—420 | 450 | 400—450 | 470—500 |
| Масла сметанк. | 1900 | 2000 | 2000 | 2000 | 1900—2000 |
| Бульба | 80—100 | 100—120 | 100 | 100—120 | 90—110 |
| Цыбуля | 250 | 220 | 250 | 200 | 200 |
| Морква | 200 | 150—180 | 180 | 180 | 170—190 |
| Капуста | 100 | 150—180 | 80—200 | 100—120 | 80—100 |
| Грушы | — | 600—1000 | — | — | — |
| Буракі | 60—80 | 100 | 60—80 | 80 | 80 |
| Мандарыны | 1800—2000 | 1500—1800 | 1800 | 1800—2100 | 1500—1700 |
| Грэцкія арэхі | 1800 | 1300 | 1500 | 1300 | 1300—1500 |
| Яблыкі | 500—650 | 300—800 | 300—500 | 420 | 250—450 |
| Маянэз | 250—450 | 240—420 | 240—420 | 240—450 | 320—500 |
| Вінаград | 4000 | 3500 | 3800 | — | — |
| Хурма | 2500 | 2000—2300 | 2500 | — | 2000—2100 |
| Часнок | 800—1600 | 1800 | 1000 | 800 | 400—600 |
| Лімоны | 1400—1500 | 1300—1500 | 1500 | 1450 | 1100—1250 |
| Апельсіны | 1200 | 1300 | 1200 | 1600 | 900—1000 |
| Бананы | 1100—1200 | 950—1200 | 1100—1200 | 1450 | 1200—1300 |
| Гранаты | 1900 | 1900 | 1800 | 1600—1800 | 1800 |
| Грэчка | 550—660 | 650 | 550—600 | 700 | 550—600 |
| Макар. вырабы | 520—560 | 500—560 | 600 | 500—600 | 550—620 |
| Рыс | 480—540 | 500—520 | 550 | 550 | 530—550 |
| Манныя крупы | 500 | 460 | 500 | 500 | 500 |
| Проса | 320—350 | 330 | 360 | 400 | 360 |
| Цукар | 560 | 560 | 550 | 550 | 570—580 |
| Мёд | 4.000 | 4.000 | 3.600 | 4.000 | 3.600—4.000 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1215 | 1250 | 1210 | 1240 | 1220 | 1245 | 1200 | 1250 | 1245 | 1290 |
| 1 дойчмарка | 550 | 560 | 560 | 580 | 560 | 590 | 530 | — | 530 | 590 |
| 1 рубель Расіі | 41 | 43 | 42 | 44 | 40 | 44 | 40 | 45 | 42 | 45 |

# РАДИОДИАЛОГИ

## полезны и интересны всем

**На Барановичском городском и районном радио вошло в добрую традицию проводить "прямые линии". Представители местной "вертикали", учреждений, отделов и управлений, приглашенные в студию, отвечают на задаваемые слушателями вопросы, дают советы и обещания разобраться и принять действенные меры.**

Вот и недавно проведенное радио-телефонное общение затрагивало вопросы работы всех служб отдела внутренних дел горисполкома. Кратким анализом проделанной за прошлый год работы "прямую линию" открыл начальник ГОВД Степан Мостыко, затем в течение часа на многочисленные вопросы отвечали: прокурор города, специалисты служб милицейского учреждения.

Надо отметить, что вопросы, которые суммировала и озвучивала главный редактор радиовещания Светлана Кудрявцева, были конкретными, актуальными и в преобладающем большинстве носили тревожный характер, при том не только личностный. Людей волнует состояние дел в нашем обществе, рост преступности и коррупции, оперативность и качество работы городской милиции, меры, принимаемые к нарушителям общественного порядка, профилактические мероприятия по предупреждению правонарушений, культура поведения стражей порядка.

Однако, к огромному сожалению, многие вопросы по сути своей остались без ответа, а некоторые ответы носили поверхностный характер. Так, к примеру, многих жителей беспокоит беспардонное поведение отдельных автолюбителей. Летом они припарковывают свои машины на тротуарах, пешеходных дорожках и даже на цветочных клумбах, а зимой заезжают на специально оборудованные площадки для сушки белья. Должные меры к таким нерадивым водителям не принимаются, и ясного ответа позвонившие в студию не получили.



Не состоялся принципиальный разговор и по такой животрепещущей проблеме, как незаконные операции "валютчиков" по обмену и продаже денег, по подпольной торговле самогоном и табачными изделиями. Под большим секретом милицейские чиновники держат свои задумки и планы по работе в будущем. Но, в целом, радиодиалог состоялся с пользой как для горожан и сельчан, так и для тех, кто посвятил себя охране правопорядка и безопасности граждан.

**Григорий ДРУЖИНИН.**
**г. Барановичи.**

# СТАТЫСТЫКА ВЕДАЕ ЎСЁ,

## або Куды коціцца сельская гаспадарка?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Таму ніхто і не дбае. Для пацвярджэння яшчэ адзін факт. Летась ва ўсіх гаспадарках Драгічынскага раёна здохла 2509 галоў буйнай рагатай жывёлы, ажно на 2051 галаву больш, чым у 1999 годзе. Паморак свіней склаў 3007 галоў.

Падобныя лічбы безгаспадарчасці можна прыводзіць і далей. Але, па-мойму, і так зразумела, што важнейшая галіна народнай гаспадаркі Драгічыншчыны ў заняпадзе. А людзі, што там працуюць, ледзь зводзяць канцы з канцамі.

Дарэчы, аб зарплаце. Яна летась у цэлым па раёне склала ў месяц 41 тысячу рублёў, у работнікаў культуры — 31 тысячу, а пра зарплату калгаснікаў і гаварыць не прыходзіцца.

Дык куды мы коцімся, калі з кожным годам жывём усё горш і горш? Хто спыніць гэты сусцэльны абвал у нашай эканоміцы? На жаль, існуюць толькі адны пытанні.

**Наталля АЛЕКСІЕВІЧ.**
**г. Драгічын.**

# Як жывецца сёння ў вёсцы?

## Гэтае пытанне мы задалі жыхарам вёскі Хомск Драгічынскага раёна



**Мікалай:** Я працую вартаўніком у калгасе імя Кірава. Атрымліваю ў месяц 20 тысяч рублёў. На гэтыя грошы пражыць нават у вёсцы немагчыма. Пры тым я яшчэ нежанаты, і расходы мае павялічваюцца. Хочацца лепш апрануцца, мець колькі тысяч рублёў на нейкія ўласныя дробязі. На жаль, пакуль што я не магу сабе гэтага дазволіць. А выжываем за кошт уласнай гаспадаркі. Трымаем карову, свіней, дамашнюю птушку.



**Тамара Мікалаеўна:** Работа ў школе, асабліва на вёсцы, заўсёды была прэстыжнай. Праўда, нашы настаўнікі працуюць больш на энтузіязме. Зарплату хоць і павышаюць, але вельмі ўжо малымі крокамі. Я сама — фізік. У мяне паўтары стаўкі. Нагрузка вельмі вялікая. З ранку і да вечара я ў школе. Атрымліваю сто тысяч рублёў. Здавалася б, многа. Але, думаецца, і мая праца, і праца маіх калег аплачваецца толькі напалову.



**Міхаіл Мікалаевіч:** Кажуць, што ў вёсцы жыць добра, маўляў, усё сваё. Дык чаму ж тады моладзь уцякае ў горад? У вёсцы трэба працаваць, асабліва на ўласнай гаспадарцы, з ранку і да вечара. Не кожны так зможа. Я, напрыклад, егер. Зарплата — 20 тысяч рублёў у месяц. Праўда, смешная? Як пракарміць сям'ю на гэтыя грошы? Зноў жа выручае ўласная гаспадарка. Жонка — медык, яна больш за мяне атрымлівае.



**Мікалай Якаўлевіч:** Ужо колькі гадоў я на пенсіі. Як ветэрану вайны, пенсію мне падвысілі. Усё жыццё працаваў кладаўшчыком у мясцовым калгасе, зарплата была невялікая. У жонкі пенсія малая. Нам, старым, многа не трэба. Але пенсій усё ж не хапае. Трымаем уласную гаспадарку. Сын Пятро жыве з намі, дапамагае.

**У народ хадзілі Святаслаў КАЖАДУБ і Аляксандр ГОРБАЧ (фота).**

# Чаму прасіў Касцюшка дапамогі?

Гэта пытанне ўзнікла невыпадкова, а пасля таго, як я прачытаў у "Івацэвіцкім весніку" (№ 10 за 7 лютага 2001 г.) невялікую справаздачу пад назвай "І замежныя дыпламаты ўшанавалі памяць Тадэвуша Касцюшкі". Патлумачу: 4 лютага гэтага года споўнілася 255 гадоў з дня нараджэння нашага славутага земляка, нацыянальнага героя дзвюх замежных дзяржаў — Польшчы і ЗША, Ганаровага грамадзяніна Францыі. І вось урывак з веснікаўскай справаздачы:

**"Заметкі гэтыя хочацца закончыць думкай Тадэвуша Касцюшкі, які, па словах даследчыкаў ягонага жыцця і дзейнасці, казаў, што толькі той народ набудзе сапраўдную незалежнасць сваёй краіны, які дабіваецца яе, абапіраючыся на свае ўласныя сілы, а не просіць дапамогі з-за мяжы.**

**Згадзіцеся, гэта актуальна і цяпер. І над гэтым варта перш за ўсё задумацца нашай радыкальнай апазіцыі".**

Прачытаў і здзівіўся. Не першы год я знаёмлюся з рознай літаратурай аб жыцці і дзейнасці Тадэвуша Касцюшкі. Пры падрыхтоўцы паўстання 1794 года наш зямляк, які ўжо на той момант быў Ганаровым грамадзянінам Францыі, спецыяльна накіраваўся ў Парыж і вёў там перамовы з міністрам замежных спраў, і нават перадаў яму так званы мемарыял аб задачах рэвалюцыі ў Рэчы Паспалітай. Аднак Францыя, якая сама нядаўна здзейсніла рэвалюцыю, на жаль, не падтрымала Касцюшку.

Такая абыякавая пазіцыя здавалася б прагрэсіўнага суседа вельмі засмуціла Касцюшку. Ён спадзяваўся на падтрымку і дапамогу Францыі, таму да глыбіні душы адчуваў сябе пакрыўджаным. Яму было незразумела, чаму дзяржава, якая ў выніку рэвалюцыі заваявала свабоду, не жадае свабоды свайму суседу.

Чаму ж Касцюшка адразу не спадзяваўся на свае сілы?

Па-першае, да ўлады ў Рэчы Паспалітай прыйшлі людзі з дапамогай расійскага войска, частка якога і засталася тут жа. І яны, вядома, нікому не дазволілі б звяржэння існуючага рэжыму.

Па-другое, і ў польскай арміі, і ў арміі Вялікага княства Літоўскага (у кіраўніцтве, афіцэрскім корпусе і сярэднім звяне) у большасці служылі людзі багатыя. Усе яны не хацелі вялікай рэвалюцыі, не хацелі ўзнімаць на барацьбу ўвесь народ, бо баяліся, што ўлада і сапраўды пяройдзе ў яго рукі. Касцюшка пад уздзеяннем сваіх падначаленых камандзіраў займаў спярша нязвёрдую пазіцыю ў адносінах да нізоў, бо лічыў, што галоўная сіла паўстання — абучаная і дзеючая армія.

Калі ж паўстанцы сталі цярпець паражэнне за паражэннем, то заклікі Касцюшкі да народа былі або не пачуты, або ім проста не паверылі.

Як вынік, аб'яднаныя сілы расійскіх, прускіх і аўстрыйскіх войскаў задушылі паўстанне.

Што ж тычыцца "актуальнасці", пра якую гавораць веснікаўцы, то чаму ж сённяшняе кіраўніцтва Беларусі самастойна не дабіваецца незалежнасці, "абапіраючыся на свае сілы", а са скуры вылузваецца, каб залезці ў расійскае ярмо. Іменна радыкальная апазіцыя (а гэта азначае рашучая) не толькі задумваецца, але і змагаецца супраць ганебнага беларуска-расійскага саюза, а дакладней — саюзнай дзяржавы, якая, на думку той жа апазіцыі, не прынясе працвітання нашай Беларусі.

Вельмі важна сёння зразумець, чаму Тадэвуш Касцюшка ў свой час прасіў дапамогі. Вядома, ваеннай. Наша радыкальная апазіцыя таксама сёння просіць дапамогі. Праўда, мірнай. І мірным шляхам, праз выбары імкнецца выбраць такую ўладу, якая б змагла карэнным чынам палепшыць жыццё нашага народа.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**г. Івацэвічы.**

# Валерия пела

## Зал плясал

**Все 762 билета в зал Барановичского городского Дома культуры были раскуплены за четыре дня и еще за три недели до концерта популярной российской певицы Валерии.**

По мнению очевидцев, Валерия оправдала все надежды: пела весь концерт без фонограммы, держала себя абсолютно не "звездно", общалась с публикой, молодежь под её песни танцевала прямо в зале. Билеты, повторимся, стоили и 20, и 16 тысяч рублей (в зависимости от расстояния до сцены), и зрители внесли в кассу, между прочим, сумму, эквивалентную 12000 долларов США.

И уже 27 февраля в этом же зале выступят со своим спектаклем популярные российские актеры Нина Усатова и Игорь Скляр. Цена билетов — от 4000 до 7000 рублей.

**Александр ГОРБАЧ.**
**г. Барановичи.**




**(Працяг. Пачатак у №№ 2, 3, 4, 5, 6).**

## V. СЭРЦА БАЛЕЛА АБ РАДЗІМЕ

**1.**

Пасля двух гадоў турэмнага зняволення Тадэвуш Касцюшка нечакана для сябе выйшаў на свабоду. Гэта было ў канцы лістапада 1796 года. Пасля смерці царыцы Кацярыны II на прастол уступіў Павел I. 27 лістапада ён з двума сынамі і сваімі прыдворнымі наведаў у турме Касцюшку.

"Вы вольны, пан генерал Касцюшка, — сказаў цар. — Вы назаўсёды, пан генерал, пакінеце цудоўныя, незабыўныя ўспаміны".

"Лепей бы я быў забыты, каб толькі Айчына была незалежнай, — адказаў Касцюшка. — Над сваім лёсам я не гараваў, але лёс Айчыны заўжды буду аплакваць".

Ужо праз дзень са спісам паўстанцаў, якія знаходзіліся ў зняволенні, Касцюшка паехаў да цара. Просьба аб іх вызваленні была задаволена. Павел I распарадзіўся таксама аб вызваленні ўсіх паўстанцаў, якія былі асуджаны і сасланы.

Ёсць звесткі, што цар прапанаваў Касцюшку маёнтак з тысячай душ прыгонных сялян, але ад гэтага ён адмовіўся.

Адносіны цара Паўла I да Тадэвуша Касцюшкі і іншых палонных паўстанцаў выклікалі недаўменне некаторых гісторыкаў і даследчыкаў.

"Павел I пачаў заступацца за палякаў, — пісаў савецкі гісторык М. Пакроўскі, — вызваліў героя апошняй польскай вайны Касцюшку, які сядзеў у зняволенні, а генерала Суворава, які ўзяў Прагу, выгнаў у адстаўку. Усё гэта ён зрабіў без усялякага разліку, проста па сваёй шалапутнасці".

Аднак на самой жа справе, як сцвярджаюць іншыя, цар Павел I праводзіў разумную, дальнабачную палітыку дружбы народаў Расіі і Польшчы.

18 снежня 1796 года Касцюшка сустрэўся з Паўлам I і падзякаваў яму за вызваленне і добрыя адносіны. На наступны дзень разам са сваім ад'ютантам і сакратаром Юльянам Нямцэвічам, ураджэнцам Брэсцкага павета, выехаў за мяжу.

**2.**

Дакладна вядома, што Тадэвуш Касцюшка на сваю радзіму ўжо не вярнуўся. Але знаходзячыся за мяжой, і зблізку, і здалёку прадпрымаў усе магчымыя меры для таго, каб аднавіць сваю краіну ў яе былых межах, аблегчыць жыццё народа. Словам, у нашага знакамітага земляка пастаянна балела сэрца за страчаны родны кут, за вялікую і малую радзіму.

Пабываўшы ў Швецыі і Англіі, Касцюшка паехаў у Амерыку. Ён спадзяваўся ўбачыць працвітаючую краіну, вольных і шчаслівых грамадзян, за свабоду якіх змагаўся. Аднак ягоныя надзеі не спраўдзіліся. У ЗША захавалася рабства, жорсткая эксплуатацыя народа. Гэта асабліва ўразіла Касцюшку. Ён сустрэўся таксама са сваімі баявымі сябрамі і таварышамі.

Да прыемнага трэба аднесці і афіцыйнае паведамленне. Кангрэс ЗША прыняў пастанову аб выплаце Касцюшку жалавання за мінулую службу і назначыў яму пенсію.

А ў Еўропе тым часам разгорталіся падзеі, звязаныя з радзімай Тадэвуша Касцюшкі. Так, французскі ўрад (Дырэкторыя) у паўночнай Італіі ў студзені 1797 года з ліку патрыятычна настроеных эмігрантаў з Рэчы Паспалітай пачаў фарміраваць польскія легіёны. Іх лозунг: свабода, роўнасць і братства. Праўда, французскае камандаванне выкарыстоўвала створаныя легіёны для барацьбы з Аўстрыяй і для падаўлення сялянскіх паўстанняў.

І тут успомнілі пра Касцюшку і вырашылі выкарыстаць ягоны аўтарытэт для арганізацыі паўстання ў Заходняй Беларусі і Паўднёвай Польшчы супраць Аўстрыі. Французскі консул у Філадэльфіі (ЗША) вёў перамовы з Касцюшкам наконт яго вяртання ў Еўропу. Была абяцана ваенная дапамога ў барацьбе за вызваленне Рэчы Паспалітай ад акупантаў.



**Тадэвуш Касцюшка (1815 г.).**

**3.**

У ліпені 1798 года Касцюшка прыбыў у Парыж. Тут ён сустрэўся з прадстаўнікамі ўрада Францыі, а таксама з Напалеонам I. Аднак гэтыя перагаворы ні да чаго не прывялі. Касцюшку стала зразумела, што Францыя зусім не дбае аб свабодзе народаў Рэчы Паспалітай. Яна кіруецца толькі сваімі нацыянальнымі інтарэсамі.

Касцюшка сам наладзіў кантакты з салдатамі і афіцэрамі польскіх легіёнаў, што знаходзіліся ў Італіі. На жаль, гэтым польскім вайскоўцам ніяк не ўдалося пазмагацца за сваю радзіму. Францыя выкарыстоўвала іх для вядзення вайны за сваімі межамі (у Італіі, Егіпце, іншых краінах).

Напалеон, які пачынаў вайну з Прусіяй, таксама спрабаваў выкарыстаць Касцюшку для вярбоўкі новых польскіх легіёнаў. У сваю чаргу Касцюшка прапанаваў, каб імператар Напалеон аб'явіў, што настаў час, калі Польшча (мелася на ўвазе Рэч Паспалітая) можа і павінна быць адноўлена ў ранейшых межах. Аднак, як заявіў міністр Фушэ, Напалеон ніякіх абяцанняў і гарантый даваць не будзе.

І гэтыя перамовы закончыліся безвынікова.

**4.**

Светапогляд Касцюшкі фарміраваўся пад уплывам ідэй Вялікай французскай буржуазнай рэвалюцыі, вызваленчай барацьбы паўночна-амерыканскіх калоній. Ён глыбока паважаў і быў прадаўжальнікам вызваленчых, антыфеадальных ідэй Ж. Руссо, Ш. Мантэск'е, Г. Джэферсона і іншых прагрэсіўных дзеячаў.

Сваё бачанне сучаснага палітычнага становішча, яго ідэі, разважанні былі выкладзены ў брашуры "Ці могуць палякі дабіцца незалежнасці", якая выйшла ананімна на польскай мове ў Парыжы ў 1800 годзе.

У першай частцы, напрыклад, аўтар аналізуе прычыны, што прывялі да заняпаду Рэчы Паспалітай. Гэта страта народам сілы духу, веры ў свае сілы, антынародная палітыка магнатаў, класавыя супярэчнасці.

Магчымасць новага паўстання, яго тактыка і стратэгія разглядаюцца ў другой частцы. Адзначалася, што сілы рэвалюцыі могуць павялічвацца за кошт вызваленчай барацьбы працоўнага люду суседніх дзяржаў, якія расчлянілі Рэч Паспалітую.

"Мараль і права ў перыяд рэвалюцыі" — такая тэма трэцяй часткі брашуры.

**"Рэвалюцыя праводзіцца не для таго,** — піша аўтар, — **каб зняць усякую аброць са свавольства, наадварот, яна мае на мэце ўстанавіць парадак, падпарадкаваць закону ўсякія правапарушэнні, прывучыць падпарадкоўвацца ўладам, устаноўленым нацыяй, ахоўваць уласнасць кожнага, што складае аснову грамадства..."**

Гэты трактат прасякнуты духам аптымізму, верай у перамогу, з'яўляецца тэарэтычнай і практычнай праграмай барацьбы народных мас за дэмакратыю і незалежнасць.

**5.**

З 1798 і да сярэдзіны 1815 года Тадэвуш Касцюшка жыў у Францыі. Заняткі ў яго былі розныя. Цікавіўся грамадска-палітычным жыццём Еўропы, ваеннай справай, шмат маляваў, працаваў на такарным станку, выточваў розныя рэчы з дрэва.

У 1808 годзе Касцюшка выдаў у Нью-Йорку брашуру "Манеўры коннай артылерыі", а на наступны год гэтая ж брашура ўжо выйшла ў Лондане. Менавіта ўласны вопыт ваеннай службы і дапамог быламу генералу знайсці тэарэтычныя абгрунтаванні для тактычных манеўраў коннай артылерыі.

У гэты час Еўропа ў чарговы раз перажывала бурныя падзеі. Напалеонаўская армія перамагла Аўстрыю і Прусію і рушыла на Расію. Аднак тут Напалеон пацярпеў сакрушальнае паражэнне. Перамога рускіх у многім звязана з таленавітым палкаводцам М. Кутузавым.



**Пакой, у якім жыў Тадэвуш Касцюшка (г. Салюр, Швейцарыя).**



TADEUSZ KOŚCIUSZKO

DOKLADNY RYS JEGO ZYCIA

KAROLA FALKENSTEINA,

W WROCŁAWIU.

**Біяграфія Т. Касцюшкі, напісаная К. Фалькенштэйнам і выдадзеная ў Вроцлаве ў 1827 г.**

Такі ход падзей усяліў у Касцюшку надзею на магчымасць аднаўлення Рэчы Паспалітай пад пратэктаратам Расіі. Касцюшка двойчы сустракаўся з расійскім царом Аляксандрам I. Яшчэ да сустрэчы напісаў яму пісьмо, у якім прасіў аб'явіць поўную амністыю тым палякам, якія служылі ў польскіх часцях, якія падтрымлівалі напалеонаўскую агрэсію супраць Расіі, а таксама аб адмене прыгоннага права.

**6.**

**"Цар Аляксандр абяцаў мне,** — пісаў Касцюшка, — **павялічыць княства Варшаўскае аж да Дзвіны і Дняпра, даўніх нашых граніц, але яго выдатным і дабрадушным жаданням запярэчыў яго кабінет...".**

Усё-такі пісьмо Тадэвуша Касцюшкі і сустрэчы з Аляксандрам I далі станоўчыя вынікі. Была аб'яўлена амністыя ўсім польскім салдатам і афіцэрам, што знаходзіліся ў Францыі. Ім было дазволена вярнуцца на радзіму са зброяй і з захаваннем вайсковых званняў і працягваць ваенную службу, але ўжо пад камандаваннем вялікага князя Канстанціна, брата Аляксандра I.

У маі 1815 года паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй былі падпісаны дагаворы аб Варшаўскім княстве. Быў створаны Арганізацыйны ваенны камітэт, у які ўвайшлі сем генералаў. Пяцёра з іх былі паплечнікамі Касцюшкі ў паўстанні 1794 года (Ю. Серакоўскі, К. Князевіч, Я. Дамброўскі, М. Вяльгорскі, Ю. Заянчонак). Ю. Серакоўскаму, напрыклад, было даручана фарміраванне польскіх вайсковых часцей у Польшчы і садзейнічанне вяртанню польскіх салдат на сваю радзіму.

**7.**

Летам 1815 года Тадэвуш Касцюшка пакінуў Францыю і пераехаў у швейцарскі гарадок Салюр. Прычына адна: з прыходам да ўлады новых людзей у Францыі пачалося праследаванне былых удзельнікаў рэвалюцыі, адмянілі свабоду друку, узрастаў уплыў духавенства. Гэта было не па душы Касцюшку, бо супраць названых ганебных з'яў ён змагаўся ўсё сваё жыццё.

А пасяліўся наш зямляк у доме Францішка Зэльтнера. З ім і яго братам Петэрам Касцюшка пазнаёміўся і пасябраваў яшчэ ў Парыжы. Дарэчы, Петэр Зэльтнер быў упаўнаважаным прадстаўніком Швейцарыі ў Парыжы.

У Салюры Касцюшка вёў актыўны лад жыцця. Па-ранейшаму цікавіўся палітыкай, сустракаўся з вядомымі людзьмі, займаўся садоўніцтвам. Асаблівы клопат — зноў жа радзіма.

Гэтымі клопатамі прасякнута пісьмо да Адама Чартарыйскага. Дарэчы, Адам Чартарыйскі быў блізкім дарадчыкам цара Аляксандра I і ў 1803 годзе стаў куратарам Віленскай вучэбнай акругі, у якую тады ўваходзілі ўсе беларускія губерні, а з 1805 года — членам сената і Дзяржаўнага савета.

Касцюшка прапанаваў свайму добраму знаёмаму надаць асаблівую ўвагу народнай асвеце на Беларусі і ў Літве, а іменна: выдаць пастанову, каб у кожным маёнтку стварыць школу для сялян, адкрыць рамесныя вучылішчы, дзе б навучаліся рамёствам (сталярнаму, цяслярскаму, такарнаму, кавальскаму, слясарнаму і іншым).

Як вынік касцюшкаўскіх клопатаў, на Беларусі было адкрыта шэраг школ, у тым ліку і вядомая Свіслацкая гімназія.

*Святаслаў*
***КАЖАДУБ.***
*Івацэвіцкі раён.*
*(Працяг будзе).*

# ПАКАРАННЕ НЕ ВЫХОЎВАЕ




**З інспектарам дарожна-патрульнай службы, старшыной міліцыі Аляксандрам Якімовічам (на здымку) гутарыць даволі цікава. На ўсе жыццёвыя сітуацыі ў яго свой погляд, свае меркаванні. Калі зайшла гаворка пра міліцыю, то і тут у яго свае важкія высновы.**




— Вучыўся ў Пінскім улікова-крэдытным тэхнікуме, потым працаваў у ПМК-60 і ўжо завочна закончыў тэхнікум. Аб службе ў міліцыі, па праўдзе сказаць, не думаў. Я сам родам з Горталя. Некалькі нашых гартальскіх хлопцаў служаць у органах МУС. Вось і мне яны намякалі, маўляў, давай да нас. Асабліва настойваў сябра Анатоль Бянкоўскі. Вагаўся я, вагаўся дый рашыўся.

**— А як жа, Аляксандр, твае родныя аднесліся да новага выбару?**

— З бацькам пытанняў не было, а маці спярша раздумвала, але потым і яна падтрымала. Для мяне пачыналася, скажу без перабольшвання, новае жыццё. Я быў ужо ў шлюбе, і прыходзілася думаць не толькі пра службу.

**— Дарэчы, жонка ўхваліла твой пераход на службу ў органы ўнутраных спраў ці не?**

— Паставілася мая Люба да такога выбару насцярожана. Ведала, што міліцыя — гэта заўсёды небяспечна, гэта заўсёды звязана з рызыкай. Час зараз напружаны, складаны і трэба быць заўсёды гатовым да любых нечаканасцей.

**— А яны бываюць часта?**

— За год працы ў патрульна-паставой службе ў Целяханах і навакольных вёсках усялякае здаралася. Не перавяліся ў нас п'яніцы і дэбашыры, сямейныя скандалісты, зладзеі і хуліганы. І з кожным паасобку трэба было разбірацца. Для аднаго хапала толькі размовы, для другога перакананні не дзейнічалі. Даводзілася прымяняць больш строгія меры ўздзеяння?

**— Якія іменна?**

— Прыходзілася і штрафаваць, і пад арыштам трымаць самых злосных парушальнікаў.

**— У такіх выпадках, Аляксандр, як ты адчуваеш сябе?**

— Ведаеце, спачатку гэта было так непрывычна, нават унутрана адчуваў сябе неяк няёмка. Але ў такіх выпадках я быў не сам, а з больш вопытнымі работнікамі, і гэта супакойвала мяне і прыдавала ўпэўненасці. Дапрасіць чалавека, скласці акт, зрабіць так, каб гэта было справядліва і непрадузята, не так проста. Падобнае я яшчэ больш адчуў, калі перайшоў на службу ў дзяржаўтаінспекцыю.

**— А розніца ёсць паміж патрульна-паставой службай і дзяржаўтаінспекцыяй?**

— Канешне, ёсць. Але тут, у сельскай мясцовасці, часам пераплятаецца і першае, і другое. Акрамя таго, што я інспектар дарожна-патрульнай службы, я яшчэ і шафёр. Калі нешта здарыцца на Целяханшчыне, то і ноччу падымаюць з ложка і прыходзіцца ехаць з аператыўнай групай.

**— І часта падобнае бывае?**

— Не вельмі часта, але здараецца. Помніцца, што нейкі злодзей усё чысціў магазіны і яго не маглі ніяк спаймаць. На паведамленне з Вялікай Гаці выехалі неадкладна. Злодзей зрабіў сваю чорную справу, але адчуўшы, што пагражае небяспека, паспеў збегчы. Пешшу яго праследавалі па-за сёламі, нават праз лес, да самых Целяханаў, і, нарэшце, дагналі. Але найбольш прыходзіцца ўсё-такі "ваяваць" з парушальнікамі-аўтамабілістамі.

**— Як доўга, Аляксандр, гэтая "вайна" працягваецца?**

— Вось ужо шэсць гадоў. Праўда, "вайна" ў добрым сэнсе гэтага слова. Прыходзіцца караць самых злосных. Але ж гэта не самамэта. Пастаяннымі пакараннямі многага не даб'ешся. Калі цябе баяцца, то ты ўжо не інспектар. Другая справа — павага і падзяка. Колькі бывала, што п'янага вадзіцеля проста прыходзілася выдаляць з машыны. А назаўтра ён прыходзіў, каб сказаць дзякуй за своечасовае спыненне, бо такая паездка магла б закончыцца вельмі сумна.

**— Сітуацыя на нашых вуліцах і дарогах сёння даволі складаная. Яшчэ цяжэйшай і больш напружанай становіцца яна ў цёплы час года, калі са сваіх двароў выязджаюць мапедзісты і матацыклісты. Як прыходзіцца наводзіць парадак сярод гэтай катэгорыі вадзіцеляў?**

— З матацыклістамі, асабліва маладымі, у нас свае метады работы. Справа ў тым, што большасць іх мы ведаем. Ганяцца за матацыклістам — справа бесперспектыўная. Уцякаючы, яны, як правіла (а калі яшчэ на падпітку), імчацца, нібы тыя смяротнікі. Мы ідзём да бацькоў такіх парушальнікаў, гутарым падобраму, пераконваем, што яны могуць страціць сына, у лепшым выпадку сын можа застацца інвалідам. Сказаць па праўдзе, такая наша работа дзейнічае. Яна больш эфектыўная, чым пакаранні.

**— Калі ж гаворка зайшла пра пакаранні, то хацеў бы спытаць, як жа ў лічбавым выражэнні выглядае работа інспектара ДПС?**

— Лічу, што лічбы для мяне не самае галоўнае. Калі ж трэба з кімсьці параўнаць вынікі маёй працы, то калі ласка. Летась мной выяўлена 1475 парушальнікаў. Найбольш вадзіцелі парушаюць правілы скараснага рэжыму — 279 выпадкаў. Затрымаў 38 чалавек у нецвярозым стане. 80 пешаходаў таксама былі ў ліку парушальнікаў.

**— Дзякую за размову. І поспехаў табе, Аляксандр.**

Гутарыў Святаслаў **КАЖАДУБ**.
г. п. Целяханы Івацэвіцкага раёна.

# Адамкавы прыгоды

У вёсцы яго называюць Адамкам, хоць яму ўжо за трыццаць. У дзяцінстве быў невысокага росту. Калі заканчваў дзесяты клас, то быў ніжэй самай нізкай дзяўчыны-аднакласніцы. Так і застаўся Адамкам, значыць, малым ростам. Любоў да тэхнікі прывяла хлопца ў вучылішча. Стаў трактарыстам і адначасова матацыклістам. Да гэтага ездзіў без дакументаў на старым братавым "Каўроўцу".

Праз паўгода, як пачаў працаваць у калгасе, купіў сабе новы матацыкл — маркі "Мінск". Самы лёгкі і надзейны, як казаў Адамка. З таго дня і пачаліся Адамкавы прыгоды.

Неяк зімой паехаў у суседнюю вёску да дзяўчыны. Пакаціў напрасткі. Праз рэчку трэба было пераехаць. Праўда па лёдзе. Падумаўпадумаў Адамка і на хуткасці рашыў праскочыць на другі бераг. Не ўдалося. Праваліўся паблізу другога берага. Сам ледзь выбраўся, а матацыкл патануў. Назаўтра брат з бацькам баграмі выцягвалі матацыкл з вады. Да вясны "Мінск" прастаяў у хляве. Адамка за яго не браўся, бо і сам доўга кашляў пасля зімовага "купання".

Вясной нядоўга хлопец тупаў ля свайго "каня". Калі наладзіў, зноў па вечарах стаў ездзіць у іншыя вёскі. Было ўсяго: і падзенні, і наезды, і нават палёты праз руль. Але цяжкіх пашкоджанняў не было. У бальніцу ні разу не трапіў. Усё праходзіла неяк.

Але ж адна паездка для Адамкі стала апошняй. Ехаў летам з вечарынкі дамоў. Церушыў дробны дожджык, бачнасць была дрэнная. І ўжо ля вёскі, пасля павароту, не ўпісаўся, так сказаць, на невялікі мосцік праз канаву, зачапіўся падножкай за слупок на абочыне і паляцеў праз руль. А берагі ля мосціка былі ўмацаваны бетоннымі плітамі. Матацыкл упаў тут жа ў ваду, а Адамка пераляцеў на другі бераг. Галавой ён бухнуўся ў цвёрдую зямлю, а ногі папалі на бетон. Балела галава, а яшчэ больш — ногі. Адразу тры пераломы. А на левай назе яшчэ моцна было разбіта калена. Паўгода ляжыўся хлопец. Але і пасля гэтага яшчэ "цягне" левую нагу, дый яна амаль не згінаецца ў калене. З таго часу Адамка ўжо не ездзіць на сваім матацыкле, а толькі рамантуе. Праўда, ужо чужыя.

Кастусь ДЗЯМЧУК.

# ЭКЗАМЕН ДОМА



**Як павінен дзейнічаць вадзіцель легкавога аўтамабіля?**
**1. Знізіць хуткасць.**
**2. Праехаць міма з ранейшай хуткасцю.**

# Водитель, помни!

**Водитель транспортного средства обязан уступить дорогу пешеходам, переходящим проезжую часть по нерегулируемому пешеходному переходу.**

**Водитель транспортного средства должен быть в готовности снизить скорость или остановиться, чтобы исключить вероятность наезда на таких участников движения, как дети, инвалиды с нарушениями опорно-двигательного аппарата.**

**Водитель должен уступить дорогу пешеходам (пешеходу), идущим к стоящему на остановке маршрутному транспортному средству или от него.**

**(Из "Правил дорожного движения").**

Еще свежи в памяти факты наезда водителей на пешеходов. Например, в Ивацевичах лишились жизни женщина и школьник. Причина — трагическая их беспечность.

Подобные случаи в последние годы зафиксированы в Пружанах, Березе, Барановичах, Дрогичине. Хотелось бы, чтобы обе стороны (и водители, и пешеходы) были законопослушными, уважали друг друга, соблюдали правила дорожного движения.

# Уцекачоў спаймалі

**ДРАГІЧЫН. Ужо ў першы месяц новага года на дарогах раёна адбылося некалькі здарэнняў. Гэта, вядома, выклікае сур'ёзную заклапочанасць.**

Так, у самім райцэнтры пацярпелі ад наездаў пешаходы. Па вуліцы 9 мая вадзіцель "Жыгулёў" збіў пешахода, які ішоў па краі праезнай часткі дарогі. Пацярпелага са шматлікімі цялеснымі пашкоджаннямі даставілі ў бальніцу.

Едучы па вуліцы імя Веры Харужай, вадзіцель зноў жа "Жыгулёў" учыніў наезд на пешахода, які атрымаў шматлікія раненні.

Самае непрыемнае тое, што няўдалы аўтааматар з месца здарэння ўцёк замест таго, каб пацярпеламу аказаць неадкладную дапамогу.

Падобная сітуацыя паўтарылася на тэрыторыі фермы "Сёмаўшчына" калгаса "Драгічынскі". Трактарыст сваім МТЗ-82 збіў пешахода. Кінуўшы трактар, ён уцёк з месца здарэння.

Сапраўды, выклікаюць абурэнне паводзіны апошніх двух вадзіцеляў. Той, хто паважае ўдзельнікаў дарожнага руху, ніколі так не зробіць.

Антон **ХВЕДАРЧУК**.

# Говорят цифры

Прошедший год уже ушел в историю. Но остались факты и цифры. По ним можно судить, какая обстановка на наших улицах и дорогах.

**Ивацевичи.** В 2000 году зарегистрировано дорожно-транспортных происшествий — 40, погибло в них — 23 человека, получили телесные повреждения — 21. За различные нарушения правил дорожного движения привлечено к административной ответственности 27642 человека.

В **Березе** соответственно эти цифры выглядят так: 29, 7, 30 и 13804; в **Пружанах** — 29, 7, 29 и 11848; в **Дрогичине** — 20, 6, 20 и 10189.

В **Барановичах (город)** произошло 58 ДТП, погибло — 7, получили телесные повреждения 48 человек. Наказано за различные нарушения ещё 43398 человек.

В **Барановичском районе** такие цифры: 160, 19, 54 и 18714.

Не зря говорят, что цифры — вещь упрямая. И бьют не в бровь, а в глаз. И еще: заставляют задуматься всех, кто принимает участие в дорожном движении.

Сергей **СЛАВИНСКИЙ**.

